№21 (63) снежань 2012 г.



*"Для чалавека няма няшчасця жудасней рабскага лёсу" (Сафокл)*

# ШКЛОЎ інфо

**№21** (63) снежань 2012

ПАЗНАВАЛЬНА-АНАЛІТЫЧНАЯ МЯСЦОВАЯ ГАЗЕТА

## Шклаўчане! Хавайцеся ў...бульбасховішча

(працяг. Пачатак у №№61,62)

Але ж, крытыкуй і прапаноўвай. У прыватнасці, у сельскай гаспадарцы справы ішлі б намнога лепей, калі б мясцовыя ўлады не паддаліся ў свой час хворым думкам з Мінску і не пачалі барацьбу з фермерамі і асабістымі гаспадаркамі сялян. У выніку ад шырокага фермерскага руху на шклоўшчыне, які на пачатку і ў сярэдзіне 90-х гадоў быў прыкладам для ўсёй краіны, фермераў засталося толькі 30% ад першапачатковай іх колькасці. Можа яшчэ і таму, што калісьці будучы Прэзыдэнт сам шчыраваў на гэтай ніве і на сваім вопыце пазнаў усе цяжкасці фермерства, таму і спрабуе абараніць беларусаў ад безнадзейнай справы. Больш разумнага тлумачэння гэтаму абсурду – абсурду барацьбы з перспектывай грамадства, якая напрацавана цывілізаваным светам ужо стагоддзямі, на мой погляд, няма. А можа з вялікага розуму, бо Лідэр Улады даўно ўжо выкінуў з галавы гэты цывілізаваны свет і ўпэўнена ідзе сваім шляхам. На жаль, і народ за сабой цягне, толькі вось у гэтага народа-бедалагі няма тых грошай, як у Сям'і, каб шукаць шчасця эксперыментальнымі шляхамі.

Што тычыцца асабістых гаспадарак, то іх жаласлівы выгляд нават пацвярджае прыдворная статыстыка, якая заўсёды бадзёра канстатуе чарговыя поспехі беларускіх аграрыяў. Дык вось, з году ў год паказчыкі вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі ў асабістых гаспадарках зніжаецца, зніжаюцца і закупы дзяржавай малака і мяса ў прыватным сектары. З пачатку гэтага году зніжкі па закупам малака ў раёне склалі 2,8%, мяса – 9,4%. Затое растуць паказчыкі ў грамадскім сектары на дзесяткі адсоткаў і так ужо колькі гадоў запар. Вось толькі заробкі сялян чамусці гэты трэнд не падтрымліваюць і можна, нават, прыйсці да высновы, што прадукцыйнасць працы беларускіх сялян неймаверна высокая, а заробкі па тэмпах намнога ад яе адсталі, што і можа характаразаваць высокі эканамічны ўзровень "калгаснага" гаспадарання.

На самай справе, у сельскай гаспадарцы Беларусі, у прыватнасці і ў Шкловскім раёне, ідуць незваротныя працэсы, якія могуць прывесці да татальнага дэфіцыту кваліфікаванай працоўнай сілы. Выратоўваць становішча будуць неабыякавыя пенсіянеры і не вельмі дысцыплінаваныя выканаўцы, ды процьма сквапных чыноўнікаў з іх "адсоткамі росту".

Але ж паглядзіце на выгляд масіву калісьці такіх прывабных прысядзібных участкаў сучаснага аграгарадка.



Няма сэнсу агучваць назву населеннага пункту - такі малюнак амаль у кожным аграгарадку, не кажачы ўжо аб "неперспектыўных" вёсках. Але ж у свой час гэта вельмі ўрадлівая, без сумневу, зямля давала ў народную (ці дзяржаўную) скарбонку свой унёсак, які вымяраўся да 40% ад валавага прадукту сельскай гаспадаркі. Сёння ж у вясковай краме мы бачым у продажы малочныя прадукты, мясныя вырабы, сала, нават, гуркі і памідоры. Дакаціліся, дапрацаваліся, дакіраваліся - сучасны беларускі вясковец з вытворца самага таннага харчавання ператварыўся ў сталага спажыўца гарадскога тыпу, пераклаўшы клопат аб фарміраванні асабістай харчовай бяспекі на "комплексы".

Чым не праблема раёну і ўсёй краіны, праблема, якая яшчэ адгукнецца і дэфіцытам харчавання, і падзеннем яго якасці, і высокім коштам для спажыўца.

Дарэчы, наконт кваліфікацыі сучасных працаўнікоў асабліва жывёлагадоўчых комплексаў, насычаных сучасным абсталяваннем, таксама ёсць вялікі сумнеў. Тое, што паказчыкі па надоям малака

з пачатку года ў раёне зменшыліс болей чым на 200кг, "заслуга" і вясковых "кулібіных", якія спрабуюць інавацыйны прадукт у выглядзе сучасных тэхналогій і даільнага абсталявання прыстасаваць да свайго разумення і вопыту. Таму і прастойваюць часам суткамі тэхналагічныя лініі малочна-таварных комплексаў, а даяркі вымушаны праяўляць вынаходлівасць у справе выканання сваіх працоўных абавязкаў.

Сярод праблем, агучваемых жыхарамі Шклоўскага раёну, раз-пораз узнікае клопат аб лёсе лядовага комплексу, які так бяздарна мінскія і мясцовыя чыноўнікі ператварылі ў доўгабуд.



Гэта не адзіны фотаздымак доўгабуда, які з такой помпай пачынаўся, толькі зямлю пад "Палац" вазілі 2 гады, каб у водаахоўнай зоне Дняпра ўзвесці такога "монстра". Больш грунтоўна гэта тэма асветлена ў наступным артыкуле нумара былога кандыдата ў Прэзыдэнты РБ Р.Кастусёва.

Карэспандэнты "ШІ" вырашылі трохі праехаць па раёну і паглядзець на другія будаўнічыя аб'екты ды правесці мінідаследванне выкарыстання асноўных фондаў дзеючай улады. Вядома, па звычцы хацелі пачаць з райвыканкама, але адразу ж ад гэтай думкі адмовіліс - толькі змарнуем час, бо чыноўнікі часцей усяго проста не ведаюць сапраўднага становішча спраў, а калі і ведаюць, то нікому не скажуць, бо гэто ўжо дзяржаўны сакрэт, за якім так шчыруюць замежныя агенты, што гатовы нават радавога слесара (як у Наваполацку) прыцягнуць да шпіянажу.

Дык вось, ад "ударна" будуемага лядовага палаца мы вырашылі праехаць па кругу праз самыя высокаэфектыўныя гаспадаркі раёну. Але надоўга нас не хапіла, бо неабходны матэрыял быў "набраны" ужо ў першай жа вёсцы Кучарына.

Гаварыць аб нейкім бурлівым жыцці ў гэтай вёсцы не прыходзіцца: калгаса "Запаветы Леніна", адміністрацыйнага цэнтра Кучарына з усімі вынікаючымі абставінамі па дурной волі мясцовых кіраўнікоў даўно няма, як і няма стымулу навогул жыць у некалі перспектыўнай вёсцы.

Пошукі "прыкмет цывілізацыі" дадатнага выніку, на жаль, не далі. Вясковы клуб у 16-30 быў зачынены, хаця па распарадку працоўнага дня жыццё ў ім павінна было віраваць.



Што ж, нашы ранейшыя высновы па эфектыўнасці працы аддзела культуры Шклоўскага райвыканкама пацвердзіліся на першым жа аб'екце. Пры чым, нават не было ніякіх прызнакаў, што хтосьці мог (нават тэарэтычна) прысці ў гэты "культурны" цэнтр, бо ўсюды віселі ёмкія замкі амбарнага тыпу.

З другога боку двухпавярховага будынку карэспандэнты ўбачылі, што тут павінна знаходзіцца Ржаўская школа (?). Але прызнакаў

школьнага жыцця каля школы мы таксама не заўважылі, бо тыя ж характэрныя для эканамічных аб’ектаў навясныя замкі аздаблялі дзверы колішняй навучальнай установы.



Ды толькі чамусьці з тых часоў аб былым калгасе больш нічога добрага сказаць і не можна. Можа і сапраўды была нейкая нагода аб’ядноўваць такія гаспадаркі, як “Запаветы Леніна”, але ж яны як раз і дазвалялі задзейнічаць максімальна ўнутраны рэсурс для вытворчасці малака, мяса і раслiннай прадукцыі.



Нават каля магазіна не было бачна людзей - вёска як вымерла. Ды кучарынцам не вельмі трэба на жыццё наракаць, бо такіх вёсак па раёну процьма - Вадва, Царковішча, Стараселле, ды і цэлы рад іншых. Але ж “отцы” гэтых знішчальных працэсаў (чытай) для беларускай вёскі, няблага шчыруюць на другіх пасадах і ўсім баюць, як раён пры  іх кіраўніцтве расквітаў, але зараз новыя кадры трохі не туды яго вядуць. Хітрыя шклаўчане пакуль не даюць адзнаку гора-”будаўнікам” іх шчаслівага жыцця, але гэты момант абавязкова прыйдзе, не сумнявайцесь, бо калі ўжо і ў Шклове бракуе сродкаў на “прэзыдэнцкі” аб’ект, то што гаварыць пра ўсю краіну.

Некалі калгас “Запаветы Леніна” быў у шэрагу неблагіх калгасаў, бо “яму” у тым ліку вельмі шанцавала на добрых кіраўнікоў. Асабіста быў знаёмы с У.Рэбертам і І.Казначэевым - добрыя меркаванні аб іх саміх і іх справах жывуць да гэтага часу. Асабліва запомніўся час, калі ў калгасе працавала два кандыдаты сельскагаспадарчых навук Т. і І.Казначэевы, якія спецыялізаваліся на сучасных тэхналогіях вырошчвання і захавання бульбы.

Так, так, калісьці ў гэтым памяшканні малочна-таварнай фермы былога калгаса “Запаветы Леніна” (а такіх памяшканняў ажно пяць) атрымоўвалі не самыя горшыя вынікі ў раёне.

Але больш усяго ў Кучарыне уразіў стан недабудаванага бульбасховішча, якое знаходзіцца якраз каля дарогі, якая вядзе ў Аляксандрыю, дзе зараз будуецца рэзідэнцыя Лідэра Улады.



Мільярдныя ўкладанні ў абсалютна затратны і ні каму, акрамя дыктатара ды кучкі былых кіраўнікоў раёну, працуючых на ім, праект, які патрабуе незлічоных выдаткаў, так патрэбных беларускай эканоміцы, ставіць крыж на многіх перспектыўных напрамках у тым ліку і ў сельскай гаспадарцы. А чаму б кіраўніку дзяржавы, як спецыялісту-аграрніку, не паглядзець на стан спраў не праз вакно "майбаха", а сустрэцца з "сваім" электарам, паводзінамі якога Прэзыдэнт вельмі ганарыцца. І тады ён убачыў бы зусім іншы малюнак стану сельскай гаспадаркі і жыцця селяніна навогуле.

Але ж гэты Прэзыдэнт па Кучарыне наўрад ці калі праедзе і праблемы навакольных выміраючых вёсак вырашаць наўрад ці стане. Бо ў яго праблемы планетарнага маштабу - то ён арганізоўвае саюзную дзяржаву, то адзіную інтэграцыйную прастору, то дапамагае былым дыктатарам уладкаваць сваё жыццё на абшарах сінявокай. А то чамусьці ўявіў сябе распараджальнікам беларускай зямлі, ды каму яе раздае? Паехалі ў Беларусь розныя эміраты, якіх чамусьці ў цэнтры Еўропы бясплатна сталі надзяляць неблагой зямлёй. Дзеля чаго, за якія такія заслугі перад беларускім народам (ці дзяржавай), а можа ўсё-такі перад гэтым сквапным рэжымам, які раз-пораз адчувае над сабой "дамоклавы" меч у выглядзе "народнай дубіны". Пажывём, пабачым!

Чамусьці Беларусь стала патрэбна вельмі пуцінскаму рэжыму, які атасаямляецца з уладай алігархаў. Але чаму беларусы павінны з свайго карману аплочваць ракетныя комплексы для аховы расейскай прасторы? Можа павіннасць гэта не дае больш эфектыўна працаваць комплексам жывёлагадоўчым? Але што ж рабіць з тымі памяшканнямі, якія сёння закінутыя ўладамі Шклоўскага раёну? А нічога мясцовыя чыноўнікі не зробяць, бо не прывыклі мысліць рыначнымі катэгорыямі і без дзяржаўнай дапамогі бульбасховішча нават у бомбасховішча не ператвораць, бо пры такой агрэсіўнай палітыцы, у першую чаргу з краінамі-суседзямі, чаго хочаш ад гэтага беларуска-расейскага вайсковага альянсу можна чакаць. Таму можа і сапраўды падумаць пра гэты варыянт выкарыстання недабудаванага сельскагаспадарчага аб'екта?

*П.Мігурскі*

# Хоць бы снег выпаў...

"Ніколі з кас мы не граблі напрацаваныя рублі,
Ніхто раней не быў багаты,
Але ж хапала да зарплаты.
Змяніўся час - і я цяпер
Амаль сапраўдны мільянер:
Штомесяц выдаюць мільён
Ды не прынёс дастатак ён:
У магазіне тыя ж траты
А не хапае да зарплаты"

Гэты верш Яўген Каршукоў напісаў 14 год таму. Чытаеш яго і думаеш-а што змянілась з тых пор? Атрымліваем мы ўдвая больш , але як не хапала да зарплаты, так і не хапае. У крамах і на рынку выбар прадуктаў і рэчаў на любыя густ і кашалёк. Але пакупнікоў на рынках стала значна менш, што гаворыць толькі аб адным: беларусы павінны купляць прадукты і рэчы для сябе і блізкіх па мінімуму. На шклоўскім рынку пачула нават такую размову: пытаецца адзін гандляр у другога чаму ніхто нічога не купляе з цёплых рэчаў гэтай восенню. Пытанне не апошняе для для шклоўскіх гандляроў, якія нясуць страты ад нулявога тавараабароту. Дык яе апанент і выдала пажаданне, для многіх якое мае адваротны сэнс:
- Хаця б снег выпаў. Можа б тады куплялі цёплыя рэчы.

На самай справе гаворка ісці павінна не пра надвор'е або нейкую кліматычную з'яву, як пра лакаматыў асабістага дабрабыту. Гаворка пра тое матэрыяльнае становішча, у якім апынуліся беларусы ў сваёй масе. Але ж у гэтую "масу" ўсё часцей трапляюць і не шараговыя грамадзяне, і чыноўнікі, і працаўнікі дзяржаўных устаноў, як медыкі, настаўнікі.

Да ведама чытачоў - нават на такой "салодкай" службе, як міліцэйская, зараз вялікія праблемы з кадрамі, а КДБ нават размясціла ў прэсе матэрыял пра магчымасць працаўладкавання ў гэтай структуры для жадаючых. Дажыліся, дакіраваліся, як кажуць. Але справа не ў гэтых недарэках, якія падхарчоўваюцца на стукацтве і лічаць гэта ганаровым заняткам. Справа ў агульным стане эканомікі, у дабрабыце нашых людзей, у перспектыве жыцця, якое насамрэч і не такое ўжо працяглае і пражыць яго хочацца годна. Змяніць становішча могуць беларусы самі, але якія ўжо так прызвычаіліся да таго, што ад іх нічога не залежыць, што нават сваё жыццё зрабіць лепшым не маюць ні ахвоты, ні смеласці.

*В.Добрая*

# Рыгор Кастусёў: Хто скраў грошы на будаўніцтва лядовага палаца ў Шклове?

**Выступаючы 1 лістапада на паседжанні выканкама Нацыянальнага алімпійскага камітэта, А.Лукашэнка запатрабаваў выкаранення фінансавых і іншых парушэнняў дысцыпліны ў сферы спорту і заявіў аб недапушчэнні фактаў карупцыі. А яшчэ раней, 26 кастрычніка, на сходзе Нацыянальнага алімпійскага камітэта ён паабяцаў надзець кайданкі на некаторых функцыянераў ад спорту, хто, па яго меркаванню, нажываўся на беларускім спорце, будуючы катэджы...**

Па сведчаннях прадстаўнікоў беларускіх уладных структураў, у нашай краіне сфармавана непрымірымая пазіцыя дзяржавы па супрацьдзеянню карупцыі і яе злачынным праявам. У апошнія гады на дзяржаўным узроўні прыняты шэраг законаў і праграм, скіраваных на барацьбу з гэтай негатыўнай з'ява. Гэта, перш за ўсё, закон "Аб барацьбе з карупцыяй", які ўступіў у сілу ў студзені 2007 года. У 2007-2010 гадах у Беларусі рэалізоўвалася Дзяржаўная праграма па барацьбе з карупцыяй на 2007-2010 гады. У верасні 2010 года зацверджана Дзяржаўная праграма па барацьбе са злачынствамі і карупцыяй на 2010-2012 гады. Дзеля выканання указа прэзідэнта ад 17.12.2007 № 644, у сталіцы створаны цэлы штаб па барацьбе са злачынствамі і карупцыяй, старшынём якога з'яўляецца пракурор горада Мінска... Але, нягледзечы на, здаецца, актыўныя меры з боку ўладаў, карупцыя ў краіне разрастаецца непамернымі крокамі. Ужо і сфера спорту па ацэнцы карупцыйнага складніка зблізілася з найбольш карумпаванымі галінамі вытворчасці. Такімі, як будаўніцтва, перапрацоўка, сельская гаспадарка. Толькі, напрыклад, у сферы будаўніцтва, не кажучы ўжо пра іншыя, за 2010 год, па заключэнню сілавых структураў, каля 730 міліярдаў рублёў бюджэтных грошай былі выведзены ў нелегальны абарот (скрадзены). А гэта перавышае нават агульны кошт такога аб'екта, як "Мінск-Арэна", уведзены ў строй напачатку 2010 года.

І колькі ж можна было бы пабудаваць толькі за гэтыя сродкі новых лядовых палацаў, іншых спартыўных аб'ектаў, будаўніцтва якіх было запланавана ў разнастайных гарадах краіны. Такіх, напрыклад, як лядовая арэна на 280 месцаў у горадзе Шклове. Будаўніцтва лядовага палаца ў Шклове было распачата ў другім квартале 2010 года, і планавалася, што аб'ект будзе здадзены ў эксплуатацыю ў 2011 годзе. Пад будаўніцтва арэны адведзена самае маляўнічае месца на беразе Дняпра, дзе раней шматлікія шклаўчане бавілі свой вольны час. На прылеглай да палаца тэрыторыі планавалася будаўніцтва летняга амфітэатра, лыжаролернай трасы, пляжа, выратавальнай станцыі, прычала для турыстычнага цеплахода і іншых пракатных плаўсродкаў для прагулак па Дняпры. Праектны кошт будаўніцтва аб'екта на пачатку яго ўзвядзення складаў каля 50 млрд. рублёў. Прайшоў час, на зыходзе ўжо 2012 год, а пра завяршэнне будаўніцтва палаца і не варта гаварыць, бо работы замарожаны на этапе падрыхтоўкі пляцоўкі з-за адсутнасці фінансавых сродкаў.

Месца, дзе раней гараджане нярэдка адпачывалі, зараз нагадвае палігон для выпрабавання цяжкай вайсковай тэхнікі. Жыхары Шклоўшчыны ўжо і спадзявацца перасталі, што калісці лядовая арэна будзе пабудавана, і шкадуюць аб сапсаваным маляўнічым месцы на беразе ракі.

Не можа адказаць на пытанне аб лёсе лядовага палаца кіраўніцтва мясцовага райвыканкама.

Маўчыць і А.Лукашэнка. Бо сітуацыю з будаўніцтвам лядовай арэны ён назіраў у час адкрыцця рэканструяванага аўтамабільнага маста праз раку Днепр у Шклове 6 ліпеня 2012 года.

Ды што тут скажаш...

І толькі як грыбы пасля дажджу растуць шыкоўныя катэджы разнастайных беларускіх чыноўнікаў ад спорту, ад сферы будаўніцтва, сельскай гаспадаркі... І растуць не толькі ў Беларусі, а і па-за межамі нашай краіны.

# Ленін даў нам дзяржаўнасць. Дагнаў і яшчэ раз даў.

Д. Гурневіч

Калі беларусамі ўшаноўваецца памяць пра Кастрычніцкую рэвалюцыю, то варта таксама з размахам адзначаць "Свята рыжскай дамовы" і "Гадавіну пакту Молатава-Рыбентропа".

У 1917 годзе беларусы дапамаглі Леніну зрабіць у Расійскай імперыі рэвалюцыю. Ленін пахваліў нашых суродзічаў і падарыў БССР. "Бярыце хлопцы, даю я вам сваю краіну. Будуйце дзяржаўнасць, а я буду ўсяляк падтрымліваць вашыя памкненні". Беларусы ўзялі. Потым нешта там у іх не атрымлівалася, пачалі яны круціць носам, ну дык Ленін кажа: "наце вам ЛітБел ССР". Ізноў не ўгадзіў. Потым даў ізноў БССР. Далей было нешта незразумелае, але вядома, што палякі і нехта там яшчэ, карацей нейкія кепскія бальшавікі ці што, у 1921 годзе ў Рызе падзялілі Беларусь на два кавалкі. Праз 18 год нашчадкі Леніна адумаліся, маўляў, а што ж мы нарабілі, і пайшлі з вінтоўкамі вызваляць Беларусь з-пад польскага панскага ярма ў якое самі ж аддалі ў згаданай Рызе. І ізноў стала Беларусь.

Прыкладна такое ўяўленне пра адраджэнне беларускай дзяржаўнасці ў 20 ст. я вынес са школы. Гэтую байку беларусам баілі больш за паўстагоддзя і прымусілі многіх паверыць, што дзяржаўнасць – гэта дар камуністаў, а ўдзел саміх беларусаў у гэтай падзеі быў ускосны.

І сёння я чытаю словы чалавека, які быццам бы мае дыплом гісторыка і называе сябе прэзідэнтам Беларусі: "Наш народ никогда не забудет о том, что Великий Октябрь предоставил ему право на самоопределение и обретение государственности, став тем фундаментом, на котором мы построили суверенную Республику Беларусь".

Хацелася б запытацца ў гэтага гісторыка, а як гэта так атрымалася, што рэвалюцыя адбылася ў 1917 г., а савецкая Беларусь была абвешчана амаль праз два гады пасля гэтага. Калі ўдалося абвесціць у 1918 годзе БНР, то што перашкаджала раней бальшавікам, якія валодалі сілай, абвесціць савецкую Беларусь? Адказ просты: яны гэтага не толькі не хацелі, не толькі не дапускалі такой думкі, яны ўсяляк супраціўляліся любым крокам беларусаў на самавызначэнне.

Украінская ССР, напрыклад, была абвешчана праз месяц пасля рэвалюцыі. Літоўскую савецкую рэспубліку бальшавікі прызналі ў лістападзе 1918 г. Ніякай Беларусі, у любой форме, бальшавікі не хацелі і бачыць, яны лічылі яе выдумкай, ілюзіяй, непаразуменнем.

У першыя бальшавіцкія рады беларусаў увогуле не дапускалі. У першых рэзалюцыях Фрунзэ, старшыні мінскага савета, не было ані слова не тое, што пра савецкую Беларусь, нават пра аўтаномію Беларусі ў складзе Расіі не было гаворкі.

Пра сваю краіну марылі за тое тысячы беларусаў. Тыя, якія з пачатку стагоддзя арганізоўваліся ў гурткі па інтарэсах альбо, як цяпер модна казаць, гета. Але і яны абмяжоўваліся выключна аўтаноміяй у складзе Расіі. Думка пра сваю дзяржаўнасць была марай, у якую пакуль верылі адзінкі. Нават на І Усебеларускім з'едзе 25 сакавіка 1917 году беларускія дзеячы казалі выключна пра аўтаноміі ў складзе Расіі. Але нават сцэнар аўтаноміі бальшавікам быў недаспадобы. Зьезд яны разагналі, а многіх яго ўдзельнікаў арыштавалі. Расстраляць не паспелі, бо ў Менск прыйшлі немцы. Бальшавікі падчысцілі дзяржаўныя сейфы, нашкрэблі 200 чалавек аховы і ў класных вагонах (як і належыць пралетарыям) намеціліся ўцякаць у Смаленск. Мінскія дэпоўцы запатрабавалі, каб тыя аддалі нарабаванае беларускае дабро і зброю ды адмовіліся даваць бальшавікам паравоз. У адказ тыя расстралялі начальніка станцыі й некалькі дэпоўцаў і паставалі ўмову Народнаму беларускаму сакратарыяту: не выпусціце - бабахнем з усіх гармат і кулямётаў па Мінску.

Беларусы, натуральна, пашкадавалі сталіцу і паравоз далі.

Падчас адсутнасці бальшавікоў беларусы часу не гублялі. Яны стварылі свае камітэты і арганізацыі. Пачалі выдаваць газету. Беларускіх рух мацнеў і да канца лета налічваў некалькі дзясяткаў тысяч прыхільнікаў.

Не заўважыць гэтага бальшавікі не маглі. Калі раней яны ўспрымалі беларусаў, як кагосці, хто боўтаецца ў іх пад нагамі, то цяпер яны пачынаюць цягнуць час і абяцаюць аддзяленне. Ім вераць некалькі нацыянал-камуністаў. Яны едуць ў Петраград і ствараюць Белнацкам пры Народным камісарыяце па справах нацыянальнасцяў на чале якога стаіць Сталін. Ані Сталін, ані мясніцоўцы, які прадстаўлялі ў той час уладу

бальшавікоў у Беларусі (у Смаленску), нават чуць не хочуць пра нейкі там савецкі беларускі ўрад і Беларусь. Яны бачаць Беларусь выключна як Заходнюю камуну ў складзе Расіі.

Немцы ў Мінску таксама не хочуць слухаць пра Беларусь. Але скарыўстаўшыся адсутнасцю бальшавікоў беларусы абвяшчаюць БНР. Запрацавалі некалькі соцень беларускіх школ і гімназій, музычная школа, педагагічны інстытут. З’явіліся свае выдавецтвы, газеты. У Літве і Ўкраіне запрацавалі прадстаўніцтвы. Бальшавікі называюць ўсё гэта контррэвалюцыяй і буржуазнымі інтрыгамі. Натуральна, ніхто ў Петраградзе прызнаваць БНР не збіраецца.

Старшыня ўраду БНР Антон Луцкевіч едзе ў Маскву да прадстаўніка Белнацкаму Жылуновіча і хоча прасіць сустэчу ў Леніна. Мы, маўляў, прызнаем уладу саветаў, а вы прызнайце БНР і мы разам створым кааліцыйны ўрад. Ленін не захацеў сустракацца. “Мы считаем, что белорусы не являются нацией и что те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты. Коммунисты не могут в каком бы то ни было случае принимать участие в этом движении” – піша ў той час будучы бальшавіцкі чыноўнік у Беларусі Кнорын (ягоным імем названая адна са сталічных вуліц). Жылуновіч піша ў друкаваным органе Белнацкаму “Дзянніцы”, што Сталін і чуць не хочуць па Беларусь, бальшавікі настойваюць на Заходняй камуне.

Так і адбываецца. Беларусь зацьвярджаюць Заходняй вобласцю. Жылуновіч заклікае беларусаў вяртацца дадому і самім ствараць урад. Пра гэта даведваецца Ленін. 25 снежня 1918 году Белнацкам запрашаюць да Сталіна й абяцаюць, што будзе вам Беларусь, пачакайце трошкі.

Калі на сходзе ў Смаленску абвяшчалі, што неўзабае будзе створана БССР, то камуністы зь Віцебску працівіліся, сьвісталі, яны не хацелі і чуць і пра Беларусь. Абвяшчаюць склад вышэйшага партыйнага органа краіны – з 15 чалавек толькі два былі беларусамі. Ключавыя пасады ва ўрадзе атрымалі людзі Мяснікова, у тым ліку й Кнорын, аўтар незабыўных радкоў пра беларусаў.

1 студзеня абвяшчаецца пра стварэнне Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь. Але савецкай Беларуссю давялося цешыцца нядоўга. Праз два тыдні, 16 студзеня 1919, бальшавікі пачалі яе ліквідацыю. Саветы стварылі дзяржаву, каб легалізаваць свае пагромы і знішчэнне мовы і культуры, каб ад імя народу арыштоўваць непажаданых палітыкаў.

Кур’ёзам стаў першы Ўсебеларускі з’езд саветаў. Ён, як вярхоўная рада рэспублікі, прыняў канстытуцыю і ў той жа момант прызнаў неабходнай ліквідацыю дзяржаўнасці. З’езд прагаласаваў за перадачу беларускіх абласцей Расіі. Віцебскую, Магілёўскую і Смаленскую губерні перадалі РСФСР. 27 лютага абрэзкі Беларусі зьлілі зь Літвой у ЛітБел ССР (ва ўрадзе якой, дарэчы, не было аніводнага беларуса).

Другі раз БССР абвесцілі 31 ліпеня 1920 году. Новая БССР складалася з шасьці паветаў Мінскай губерні. Гэта была мікраскапічная рэспубліка. Неўзабаве яе займаюць палякі.

У 1921 годзе на Рыжскай канферэнцыі палякі і бальшавікі пачынаюць без удзелу беларусаў дзяліць нашу краіну. Савецкая дэлегацыя прапануе палякам усю Беларусь, а ўзамен палякі павінны былі б прызнаць Савецкую Ўкраіну. Пілсудзкі на гэта не ідзе. Ён хоча мець буфер паміж Расіяй і Польшчай. БССР застаецца існаваць у невялікай частцы сваіх этнічных тэрыторый.

Без гэтай заблытанай храналогіі цяжка зразумець рэальную ролю бальшавікоў у беларускай дзяржаўнасці. 1917 год, бясспрэчна, быў нагодай для ўзнікненьня Беларусі. Але праблема ў тым, што ніхто даваць беларусам сваю краіну не збіраўся. Супраць гэтага працавала ўся вялізарная чырвоная сыстэма. Толькі самаарганізацыя беларусаў, адважныя палітычныя канцэпцыі і рэальнае іх вырашэнне стала зарукай узнікнення Беларусі. Спачатку БНР, а потым і БССР. Гэта каштавала неверагодных высілкаў, нерваў, сілы волі, духу, а пазней слёз і крыві. Ці ўдалося б беларусам мець сваю дзяржаўнасць, калі б не некалькі сотняў смелых, якія за лічаныя месяцы здолелі паказаць бальшавікам: беларусы ёсць і ігнараваць гэтага вы не можаце. Большасць з іх згіне пазней у савецкіх лагерах, у турмах, частку расстраляюць у Курапатах. Камуністычны тэрор

пазбавіў беларусаў эліты, амаль знікла пераемнасць пакаленняў. Беларусы ў СССР былі фактычна вымушаныя пачынаць з чыстага ліста. І ім ізноў удалося.

Калі сёння я чую, што беларусы павінны святкаваць дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі хаця б таму, што гэта камуністы падаравалі нам дзяржаўнасць, то хачу спытацца камуністаў: а ці святкуеце вы дзень пачатку І сусветнай вайны, якая падаравала ваш шанец правесці вашу вялікую рэвалюцыю? Куды б зайшлі бальшавікі без сусветнай вайны можна толькі гадаць. Калі крочыць навязанай камуністамі логіцы, то беларусы павінны таксама святкаваць і дзень падпісання рыжскіх пагадненняў. Фактычна БССР захавалася дзякуючы палякам, якія адмовіліся браць ад бальшавікоў усю тэрыторыю прапанаваную камуністамі. Чарговым святам мог бы быць дзень падпісання пакту Молатава-Рыбентропа, на падставе якога бальшавікі занялі Заходнюю Беларусь і ў выніку чаго Беларусь пасля вайны аб'ядналася. У найноўшай гісторыі можна святкаваць пачатак перабудовы, дзякуючы якой СССР пачаў рассыпацца і крызіс даў шанец паняволеным народам абвесціць сябе незалежнымі дзяржавамі.

Усе гэтыя даты й падзеі ніхто не планаваў як дабрадзейства для беларусаў. Гэта беларусы, скарыстаўшыся няпэўнымі часамі, войнамі, канфліктамі, крызісамі, змаглі вырваць з зубоў вялікіх братоў, кавалак за кавалкам, сваю дзяржаву. У гэтым нашыя прадзеды не вынаходзілі ровара. Гэта спрадвечнае правіла гісторыі. І ў гэтай гісторыі сваю дзяржаву беларусы здабылі не дзякуючы рэвалюцыі ці бальшавікам, а насуперак ім, самі, усім ворагам на злосць.

06.11.12

# Беларусь отстает по средним зарплатам почти от всех соседей (Карта)

Сколько, согласно официальным подсчетам, зарабатывают белорусы, а сколько жители соседних стран?

Прибалты и россияне держатся приблизительно на одном уровне ($ 780-880). А вот поляки вне конкуренции - только они одни перешли рубеж в $ 1000.

Данные взяты с сайтов статистических ведомств стран. Они показывают зарплаты до уплаты налогов, пишет «Наша Ніва».

Поскольку нормативы и скорость работы в каждой статистической организации разные, уточним, что для Литвы и Латвии указаны зарплаты за второй квартал 2012 года, для Польши - за третий квартал, а вот Беларусь, Россия и Украина предоставляют данные за сентябрь 2012 года.




Адказны за выпуск Мігурскі П.С. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад: 299 ас.
Адрас: 213018 Магілёўская в., Шклоўскі р., в.Дабрэйка. Тэл. 8 02239 92618; 8 0298 499670
E-mail: agro56@tut.by. РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ.